Год VII. ЧЭРВЕНЬ 1929 г. Кніжка 6 (26)



Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.



ЗЬМЕСТ:



Цана асобнага нумару 30 гр.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Людвісарская вул. № 1.

# З практыкі для практыкі.

## Неразмакаемы сталярны клей.

Лепшы сталярны клей-сьветла-жоўты, шклопадобны. Ён празрачны, хрупкі, як шкло. Такі клей разьбіць на кусочкі і заліць вадой. Як клей уцягне ўсю ваду і распухне; прыбавіць 1/10 частку алівы (варанага масла), падагрэць, але каб не падгарэў. Як стане гарачым і жыдкім зараз-жа склейваць ім драўляныя часткі, стараючыся класьць яго тонкім слоем, пакуль гарачы. Склееныя часткі сільна зажаць.

**Танный клей.** 2 часткі творагу (дасуха аджатага) і 1 частка сьвежа гашонай вапны зьмяшаць і акуратна расьцёрці. Сумезь павінна быць густаты, як сьмятана; пакуль клей сьвежы, ім трэба зараз-жа клеіць.

**Замазка для шкла, метала і дзерава.** Да паратка сьвінцовага глёту (можна дастаць у аптэцы) дабаўляць, добра расьціраючы, глецырын. Як атрымаецца цестаабразная маса, яна будзе годна для скліваньня шкла, метала і дзерава. Маса цьвёрдая, непрамакаемая і агняўпорная.

**Сродак процiў мух у хлеве.** Адна нямецкая с. гаспадарчая часопісь раіць ужываць процiў мух у хлявох змазваньне жалобаў і сьцен 10% рашчынам формаліны (можна дастаць у аптэцы), ці двуразовае бяленьне сьцен і жалабоў у хляве вапнай з дадаткам алуну. Быццам пасьля гэтага мухі хутка ўцякаюць з такіх хлявоў і больш не дакучаюць жывёле.

# САХА

Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.



## Сэрвітуты.

Распараджэньнем Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі, агалошаным у „Dzienniku Ustaw“ ад 1-га лютага 1927 г. на беларускіх землях да 1 студзеня 1930 г. касуецца сэрвітутнае права. Паводле распараджэньня, увайшоўшага ў сілу з дня яго агалошаньня ў „Dzienniku“, ліквідацыя сэрвітутаў мае адбывацца, як шляхам дабравольнае умовы вёскі з панам, так і прымусова—адпаведнымі зямельнымі ўладамі. З моманту ліквідацыі сэрвітутнага права вёска траціць права на карыстаньне тэй значнай часткай угодзьдзяў, якія адыходзяць да маёнтку.

Прашло зусім мала часу, як гэтае распараджэньня маючае ў нас сілу закону, праводзіцца на беларускіх землях у жыцьцё, а ўжо наўкол ліквідацыі сэрвітутаў стварылася атмасфэра незадаволеньняў сялян, пераважна малазямельных. Пасольскія соймавыя клюбы літэральна закідваюцца шматлічэбнымі пратэстамі аб надужыцях пры ліквідацыі сэрвітутаў, польскія зямельныя суды на мясцох запоўнены сэрвітутнымі справамі, якія нярэдка даходзяць да найвышэйшага суда Польскае Рэспублікі са скаргамі сялян.

Так беларуская вёска зарэагавала на правядзеньне ў жыцьцё закона аб скасаваньні сэрвітутаў.

Што-ж тут напалохала нашу вёску?

Перш чым адказаць на гэтае пытаньне, заглянём да гісторыі сэрвітутнага права, прасачым ,,аграрныя рэформы» на нашых землях і ўявім сабе сучасны эканамічны стан малазямельных сялян беларускае вёскі.

Скасаваньне фэодальнага строю пасьля крывавых бунтаў сялян на Захадзе Эўропы, няўдалая Крымская Вайна ў 1855 г., бунты сялян у Расеі і Беларусі ад-

крылі вочы Расейскаму царскаму ўраду, што ў прыгоне хаваецца вялізная небясьпека для існаваньня царскага трону. Праявы незадаволеньняў сялян з кожным днём усё больш палохалі царскі ўрад, які ўжо добра бачыў, што калі нешта ня даць сялянам, дык апошнія могуць забраць многа самі. Трэба было папярэдзіць катастрофу, дзеля чаго царскі ўрад Аляксандра II выдаў акт ад 19.II.1861 г. аб скасаваньні прыгону. Па гэтаму акту, які шмат хто »чамусьці« называе »найвялікшай рэформай людзкай гісторыі«, даў нашаму селяніну свабоду толькі праўную. Эканамічнай падставы для людзкага існаваньня сяляне і пры новых абставінах не дасталі. Крыўднасьць гэтае »свабоды« больш усяго адчулі сяляне беларускіх зямель, дзе уласьнікамі вялізных абшараў зьяўляліся чужынцы— расейскія або польскія паны. Апошнія забралі найлепшыя землі, аддаючы сялянам адлеглыя і малапрыгодныя для земляробства кускі. Самы надзел рабіўся з ласкі пана, які па асабістаму погляду вызначаў колькасьць надзелу на сялянскі двор. Вось дзеля чаго мы бачым, што ў аднэй вёсцы валока зямлі роўна (батрацкі надзел) 3-м дзецянінам, а побач, хаця і рэдка —30 дз.

Атрымаўшы надзел бяз пастбішчаў і сенажацяў, беларускі »свабодны« селянін апынуўся ня ў лепшых варунках жыцьця, як і за прыгонам. Цяпер ён замест прыгоннай павіннасьці мусіў даваць падаткі і вялізныя выкупныя аплаты. Для пакрыцьця іх селяніну трэба было гадаваць больш жывёлы. Вось гэта яго і змусіла ізноў зьвярнуцца да былага свайго пана за пастбішчамі і сенажацямі, якія былі адпушчаны селяніну за працу. Настаў так званы »свабодны прыгон«, які сяляне называлі — пастбішчным. З часам на гэтыя угодзьдзі было ў нас праведзена права супольнага карыстаньня і яны назваліся сэрвітутамі.

Адпусьціўшы сэввітуты для вёскі, паны затрымалі за сабой усе-ж яшчэ вялізарныя абшары. Так 26 гадоў пасьля скасаваньня прыгону было зямлі:

| Губэрні | У паноў 1887 г. | У сялян 1887 г. |
|---|---|---|
| Горадзенская | 84,2°/₀ | 8,1°/₀ |
| Віленская | 89,5„ | 4,4 |
| Віцебская | 82,4„ | 5,4 |
| Магілёўская | 82,3 | 8,4 |
| Менская | 93,4 | 1,4 |

Як бачым з табліцы, у сялян у 1887 г. знаходзілася зусім нязначная частка зямлі ў параўнаньні з панамі. Між тым акт 19.II 1861 г. прычыніўся да шпаркага росту насельніцтва на Беларусі, бо цяпер беларускі селянін не патрабаваў дазволу ад пана на жаніцьбу. Голад на зямлю рос з кожным годам. Ізноў для расейскага ураду паўстала небясьпека з боку сялян, якія пачалі бунтавацца. Рэвалюцыя 1905 г. на Беларусі адбылася пад лёзунгам »зямля працоўнаму сялянству.« Кліч гэты прымусіў царскі урад падайсьці да зямельнага пытаньня ўласьцівым яму шляхам: адкрыць акцыі Сялянскага Зямельнага Банку і перавесьці сялян на хутары. Але акцыя гэтага Банку хутка спынілася, бо цэны на зямлю падняліся і сяляне не маглі выплаціцца Банку, які выкідваў іх з купленых вучасткаў.

За 50 гадоў вёска пазнала што «пасьля прыгонная свабода» зрабілася ілюзорнай, што эканамічны быт яго нісколькі не палепшыўся, ня гледзячы на усе «рэформы» царскага ўраду.

У 1918 годзе беларускія сяляне скідваюць з сябе шэрыя шынелі і вяртаюцца да сваіх халуп. Што-ж ён знаходзіць дома?

Асадніцтва, як вайсковае так і прыватнае на Беларускіх землях, парцэляцыя маёнткаў з вольнае рукі адабралі ў беларускага малазямельнага селяніна магчымасьць знайсьці хаця »свабодны прыгон«. Ён мусіў задавольніцца тым, што раней меў. Вось ад гэтага паўсталі расьці на беларускіх землях карлікавыя гаспсдаркі, на якіх »неяк« мусіў жыць наш селянін.

Калі яшчэ ў 1905 г. па дасьледваньням статыста-

га гр. Ходскага—ад 1 да 10 дзс. зямлі было гаспадарак: у Віленскай губ. 31,8 проц. Гарадзенскай 15,1 дык цяпер, ня маючы статыстычных дадзеных, гэты процант можна сьмела шмат павялічыць. Цяпер 1—3-х дзесяцінная гаспадарка у Заходняе Беларусі займае па колькасьці першае месца сярод больш вялізных гаспадарак разам узятых. Гэта анармальнае зьявішча ў нас паўстала як вынік адсутнасьці пабочных заробкаў і адплыву з вёскі лішніх рабочых рук. Воляй склаўшыхся акалічнасьцяў беларускі малазямельны селянін штодня грашыў процiў »сьвятога« права прыватнае уласнасьці, прыгадоўваючы лішнюю жывёлу на хлеб на сэрвітутах.

Сэрвітуты касуюцца, большая частка іх адыходзіць да маёнтку, а рэшта дзеліцца прапарцыянальна надзелу кожнага гаспадара вёскі. Ад малазямельнага селяніна адбіраецца апошняя падстава яго палугалоднага існаваньня, бо цяпер на 1—2-х дзесяцінах мусіць весьці самавыстарчальную гаспадарку; іншае пэрэспэктывы няма. Карлікавая гаспадарка на Заходняе Беларусі мусіць пракарміць сям'ю гаспадара з некалькі душ, карову, каня і іншых сапутнікаў гаспадаркі, ды плюс выканаць усе павіннасьці, наложаныя на гаспадара яе, як »свабоднага« грамадзяніна.

Перэспэктыва весьці самавыстарчальную гаспадарку на аднэй-двух дзесяцінах без сэрвітутаў не магла не спалохаць нашага малазямельнага селяніна, перэспэктыва галоднага істнаваньня без надзеі прагадаваць свайго кармільца каня прымусіла беларускую вёску змагацца з насоўваючысям на яе яшчэ новай небясьпекай.

## Падзолістая глеба, як вытворчая фабрыка земляроба.

Праз глебу зямляроб дабывае сабе ўраджай. Для земляроба павінна быць цікава і карысна ведаць самы мэханізм вытворчай глебы, ці добра яна працуе, што ў ёй

трэба паправіць і як высока магчыма падняць вытворчасьць глебы. У даным выпадку я буду гаварыць толькі аб падзолістай глебе і таму, што на Беларусі пашыраны толькі падзолістыя і балоцістыя глебы.

Мэханізм глебы вельмі просты. Дажджавая і сьнегавая вада, пападаючы на паверхню зямлі, працякае ў значнай меры ў глыбіню зямлі. Вядома, што яна пры гэтым будзе рашчыняць некаторую частку зямлі і выносіць уніз. Цяжка вадзе рашчыняць у сабе глебавыя часткі, але пры дапамозе расьлін і мікробаў яна гэта патрошкі робіць. З працягам часу з верхніх пластоў глебы значны лік прадуктаў вымываецца, цалкам вымываецца ўся вапна, якая даволі цяжка рашчыняецца ў вадзе і пачынае вымывацца жалеза, якое прыдае зямлі чырвоны колер.

Глеба як бы падзяляецца на два пласты: асьветлены верхні бялявага колеру і асабліва чырвоны ніжэйшы. Справа ў тым, што вада на некаторай глыбіні глебы расходуецца карэньнем жывых расьлін, а вымытае вадой жалеза і частка іншых прадуктаў адкладаюцпа ізноў.

Зусім адваротнае адбываецца ў глебе пад уплывам расьлін. Сваімі каранямі, якія расьліна шырока і глыбока пускае ў зямлі, яна здабывае сабе патрэбныя пажыўныя матэрыі, якія ідуць на пабудову карэньня, сьцябла, лісьця і г. д. Калі з поля здымаецца ўраджай, дык значная частка прадуктаў глебы пры гэтым трацісца зусім для глебы. Тое-ж, што заст ецца ад расьлін (ржэўнік, карэньні) перагнівае і зьмешваецца з глебай. Галоўная частка перагною адкладаецца ў глебе бліжэй. паверхні яе. Такім парадкам расьліны падымаюць частку прадуктаў глебы з глыбіні да паверхні. На гэтым і грунтуецца сыстэма палепшаньня глебы праз залеж. Сяляне кажуць, што глеба пры гэтым адпачывае; відавочна, што дзейнасьцю дзікіх расьлін глеба абагачвае свой верхні пласт пажыўнымі матэрыялами.

У выніку вымываньня і жыцьця расьлін глеба прымае прыблізна наступны выгляд:

Ад 0 да 18 см. — шэры, перагнойны пласт з астачаю тоўстых каранёў расьлін; пласт гэты звычайна пульхны, распаханы.

18—40 см. жаўтавата-бялёсы падзолісты больш бялёсы кнізу, чым зьверху; карэньні расьлін рэдкія і тонкія.

40—100 см. — жаўтавата ці буравата-чырвоны; пласт адкладу вымытага зьверху жалеза, моцна сцэмэнтаваны, часта распадаецца на камкі.

Ніжэй ідзе мала зьменены грунт (падглеб'е) крыху сьвятлейшага колеру, чым пярэдні.

Чым бялейшы і шырэйшы падзолісты пласт, чым глеба больш ападзоленая, тым больш у ёй прадуктаў пераходзяць у глебавы рашчын. А таму ў значнай меры

дапамагаюць расьліны, якія выдзяляюць сваімі маладымі карэнчыкамі кіслату, і мікробы, якія дапамагаюць згніваньню астаткаў расьлін.

Падзолісты пласт глебы зьяўляецца паказчыкам таго, на колькі інтэнсыўна працуе наша фабрыка.

Расьліна можа скарыстаць толькі тыя прадукты глебы, якія перашлі ў рашчын. Яна ўсасывае іх у сябе разам з вадою праз маладыя тонкія карэнчыкі, і па асобных жылках пераносіць ад караня ў сьцябло, галіны, лісьце і г.д.

Наш пасеў на полі толькі тады дасьць добры ўраджай, калі ў рашчыне глебы знаходзіцца даволі пажыўных матэрый. З гэтага пункту гледжаньня падзолістая глеба зьяўляецца вельмі добрай вытворчай с.-г. фабрыкай, бо рашчыненьне ў ёй прадуктаў глебы ідзе з вялікаю сілаю.

Усе мы прызвычаліся думаць, што найлепшымі глебамі зьяўляюцца чарназёмы,—бо яны багаты перагноем і іншымі патрэбнымі для расьліны прадуктамі. Яны заўсёды пульхны і не патрабуюць асаблівай апрацоўкі. Кажуць, што там досыць троху падрапаць зьверху глебу, пасеяць і ўсё добра парасьце.

Тут ёсьць свая доля праўды, але аб чым яна сьведчыць? Чорназёмы ляжаць на поўдзень ад падзолістых глеб. Там больш горача, значна менш выпадае дажджоў і сьнегу. Тая вада, якая працякае ў глебу, далёка не праходзіць, бо хутка расходуецца густым травяным стэпам і ў чарназёмах адчуваецца недахоп вады. Таму гэта глеба мала прамыта і ў ёй шмат перагною, які не пасьпявае раскладацца да канца. У летку трава ў стэпу выгарае за недахопам вады.

Запасы пажыўных матэрый для расьлін там вялікія, але ў глебавым рашчыне іх бывае мала. Вясной, увосень і ў вільготнае лета там часамі усё добра расьце, але ў сухія годы летам у глебе не хапае вады, фабрыка становіцца і ўсё гіне. Чарназём, як фабрыка, працуе ня поўнай нагрузкай, часам і зусім становіцца.

Зусім іншае з нашай падзолістай глебай; яна заўсёды працуе добра. Але тут ёсьць недахопы падзолістае глебы. У той час, калі няма расьлін, значная частка прадуктаў глебы вымываецца ў глыбіню грунта. Вось чаму нашы глебы заўсёды пустыя. У іх, як на добрай фабрыцы, ніколі няма вялікіх запасаў сырцу; зараз-жа яны ідуць у перапрацоўку.

Як вытворчая фабрыка, у земляробстве падзолістая глеба зьяўляецца найлепшай глебай. Але пры ёй земляробу патрэбна быць умелым і руплівым майстрам. Трэба ў свой час падаць патрэбныя матар'ялы, даць належнае ўгнаеньне, добра апрацаваць і г. д. А карысьць ад гэтага будзе відавочная.

На падзолістых глебах дадуць вялікую карысьць і такія сырыя і танныя угнаеньні, як размолаты фосфарытаваты камень (фасфарытная мука), торф, гной, лубін на зялёнае ўгнаеньне і інш. Падзолістая глеба сама зьяўляется добрай фабрыкай для пераработкі сырых угнаеньняў у глебавы рашчын.

Таксама заўважана, што найбольшая вытворчасьць нашых падзолістых глеб ня толькі ня меншая за іншыя глебы, а нават большая. З шырокай практыкі вядома, што чарназёмы даюць звычайна ўраджаі ў 80—120 пуд. жыта на дзес. Між тым у Нямеччыне і ў Бэльгіі, дзе тэхніка сельскай гаспадаркі стаіць вельмі высока, на падзолістых глебах сярэднія ўраджаі падняліся ўжо да 150 і 165 пуд. на дзес. На дасьледчым-жа полі Ціміразеўскай Акадэміі пад Масквой у 1921 г. дзес. жыта дала 247 пудоў.

Поўная забясьпечанасьць падзолістай глебы вадой — мерны клімат, адсутнасьць шкоднікаў, якія на поўдні значна шкодзяць сельскай гаспадарцы,—складаюць вельмі спрыяючыя умовы для разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў нас на Беларусі. Аднак, тысячагодзьдзямі сельскага гаспадараньня спустошаныя глебы даюць вельмі слабыя ўраджаі (30 40 п. жыта) і селянін прымушан кідаць сваю старонку і шукаць сьвяжэйшай зямлі ў Сібіры і на Далёкім Усходзе, дзе прыродныя умовы ў значнай меры падобны нашым.

Наша-ж глеба ўсё працуе і патроху псуецца. Земляроб, пазнавай сваю фабрыку—глебу і давай ёй „сырцу", угнаеньняў, каб не працаваць у пустую.

„Плуг" № 7 1927 г. П. Рагаты.

# Сарнякі на полі.

Хто з земляробаў ня ведае, што такое сарнякі на ніве і якую яны прыносяць шкоду нашаму земляробству? Шкоднасьць ад сарнякоў ня толькі тая, што яны часта глушаць нашыя культурныя збожжы, зьмяншаюць прадукцыйнасьць труднае працы нашага селяніна, але часта, зьяўляючыся дамешкай атруты да хлябоў, робяць і ня здатнымі іх да ужываньня.

Разам з земляробствам зьявіліся і сарнякі. Ужо ў найстарэйшай кнізе-бібліі мы сустрэкаемся з імі (прытча аб плевелах), дзе тлумачыцца, што сарнякі ёсьць праца чарта. Даўней чалавек, заражоны рознымі забабонамі і, бачачы ў сарняках насыланьне д'ябала, адчуваў сябе бязьсільным з імі змагацца і спакойна назіраў, як яго праца амаль не да шчэнту нішчыцца сарнякамі.

Часы зьмяніліся, забабоны адыходзяць у краіну мінуўшчыны, чалавек паступова асвабаджаўся і асвабаджаецца ад розных прышчэпліных вякамі вераваньняў, на меісца дурацкіх забабонаў уваходзіць усемагутная навука, заклікаючы нас не спакойнаназіраць за злом, а весьці з імі бязьлітасную вайну.

Каб удала весьці вайну з ворагам, вайсковая навука кажа, што перш-на-перш пазнай ворага, каб яго хутчэй даканаць. З гэтай мэтай мы пастараемся трохі задзяржацца над прыродай нашага ворага.

Большасьць сарнякоў, што так шкодзяць нашым збожжам, множацца насеньнем. Каб забясьпечыць сваё жыцьцё ў патомстве, усіх дзікіх сарнякоў прырода надзяліла надзвычайнай вытрываласьцю з неспрыяючымі ўмовамі. Некаторыя сарнякі захоўваюць здольнасьць да прарастаньня ў вільготнай зямлі да 10 гадоў. Гэта часта зьяўляецца прычынай, што на ніве, на якую не высяваліся сарнякі і якіх ня было блізка на межах і ўзроўках, у адзін год раптоўна зьяўляюцца на ніве ў такой колькасьці, што зусім глушаць збожжа. Гэты факт, шмат дзе на Беларусі параздзіў забабоны, што некаторыя культурныя зярняткі могуць ператварацца ў сарнякі, як напр: больш адсталыя нашы сяляне яшчэ веруць, што з зярняці жыта ў некаторы год могуць вырасьці каліўі гірсы і наабарот.

Часам сарнякі заносяцца з далёкіх месцаў ветрам, дзеля чаго прырода хітра надзяліла іх рознымі крылаткамі, заносяць іх жывёлы і чалавек, да якіх насеньне сарнякоў прымацоўвацца рознымі калючкамі і кручкамі.

Але больш усяго на ніву заносіць сарнякі сам гаспадар разам з насеньнем, а больш з гноем. Насеньне сарнякоў, пралежаўшы ў гнаі, або нават прайшоўшы цераз страўны праход жывёлы, ня толькі ня траціць здольнасьці да прарастаньня, але там яны падрыхтоўваюцца да больш дружных усходаў.

Шмат насеньня сарнякоў пры неспрыяючых ўмовах гіне, не даўшы жыцьця сабе падобным. Але і тут хітрая прырода паклапацілася заапекавацца імі і надзяліла іх надзвычайнай плоднасьцю; напрыклад, адно каліво стварае зярнят:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) | Палявая бярозка | да 400 | шт. |
| 2) | Гірса . . . . | „ 840 | „ |
| 3) | Кукаль . . . | „ 1054 | „ |
| 4) | Васілёк (валошка) | „ 6,680 | „ |
| 5) | Мятлюк . . . | „ 13,416 | „ |
| 6) | Дзікі мак . . . | „ 19,440 | „ |
| 7) | Асот . . . . | „ 35,500 | „ |
| 8) | Пастуш'я сумка | „ 73,000 | „ |

Амаль ня ўсе сярнікі ў нас мясцовага паходжаньня,

зьявіліся ў нашым краю разам з рэштай расьліннасьці. Зразумела, што ў працягу гісторыі флёры*) ў нас яны добра прызвычаіліся да мясцовых умоў і лепш прывыклі да нашых глебеў і клімату. У той час, культурныя збожжы бадай што ўсе прынесены да нас з далёкіх чужых краёў, і тут іх чалавек паступова прымусіў расьці. Гэта і дае сарнякам перамогу ў барацьбе з культурнымі збожамі і без дапамогі чалавека апошнія хутка былі-б выціснуты з нашых палёў.

Апрача таго, што сарнікі атручваюць часта наша збожжа, глушаць яго на ніве, яны шкодзяць нашаму земляробству ўкосна. Шмат сарнякоў даюць прытулак розным шкодным жучком і матылём, якія адкладваюць свае яечкі на гэтых сарняках. З яечак выходзіць вусені, якія перш жывуцца расьліннай часткай свайго гасьцінага гаспадара, а потым пачынаюць губіць нашы палі, агароды і сады. Часам гэта страта бывае вялізарная.

Сярод сарнякоў зьяўляюцца і чужаеды (паразіты) якія жывуць ня сокамі з зямлі, а прылепліваюцца да культурнай расьлінкі і высмактываюць з яго сокі. Да такіх чужаедаў належыць вядомая гаспадаром павіліка, што нападае на лён, канюшыну.

Азнаёміўшыся з прыродай нашых ворагаў, гаспадар мусіць скіраваць усе высілкі на барацьбу з імі.

**Як папярэдзіць распаўсюджваньне сярнякой.** Змагацца з сарнякамі на ніве трудна і за адзін год іх вынішчыць нельга. Кожны разумны гаспадар мусіць старацца папярэдзіць іх распаўсюджаньне і на гэта зьвярнуць пільную ўвагу і перш-на-перш не занасіць іх на поле самому.

Мы ведаем, што насеньне сярнякоў заносіцца разам з пасевам, або з гноем. Вось тут мы і пачнём змагацца з сарнякамі. Трэба раз на заўсёды кінуць ачыстку насеньня ручным спосабам і перайсьці да машыннага. Што машына лепш ачышчае ад сярнякоў, чым рука, паказвае наступная таблічка:

| | |
|---|---|
| Пры ачыстцы аўса рукой выходзіць сарнякоў | 7,58% |
| „ ярфай | 6,86% |
| „ сартоўкай | 3,77% |

Далей кожны гаспадар мусіць асьцерагацца кідаць насеньне сарнякоў ў гной, скармліваць цалком скацінай. Мякіну трэба даваць жывёле запаранай. Ня даваць насеньню выспець на расьлінцы, дзеля чаго ўсе узьмежкі каля нівы, калі іх нельга скасаваць, дык абавязкова скасіць яшчэ у часе красаваньня іх, а то і раней. Скашваньне трэба рабіць часьцей.

*) Флёрай называюць усё царства расьлін.

Весьці апрацоўку ральлі так, каб выклікаць дружны ўсход сарнякоў, якія наступнай апрацоўкай зьнішчыць.

Ня высяваць адну і тую расьліну падрад на адным месцы, а завесьці чаргаваньне культур, ці інакш кажучы-перайсьці да правільнага севазвароту. Даказана, што пладазьмены на полі спрыяюць зьнішчэньню сарнякоў.

Далей, трэба ўцяміць, што ня толькі шкодным вывазіць сарнякі з сядзібы на ніву, але шкодна і з поля прывазіць у сядзібу.

Змаганьне з сарнякамі — справа трудная, але карысьць для гаспадаркі вялізная. Да гэтага змаганьня, усё-ж-такі трэба перайсьці рашуча.

**У. Павалковіч**

---

# Ражкі.

По расейску — споринья,
па польску — sporysz,
па лацінску — Clariceps purpurea.

Ражкі ў каласох збожжа вядомы кожнаму земляробу. Звычайна нашы гаспадары мала на іх зварочваюць увагі, а гэта дзеля таго, што мы яшчэ ня ведаем, што гэта за зярняты ў каласох і якая ад іх можа быць і бывае шкода або карысьць. Нашы гаспадыні і дзеці, а разам з імі і некаторыя гаспадары, убачыўшы ражкі на збожжы, кажуць, што колас „спаліла маланка". Гэтым справа і канчаецца, а ражкі растуць, сьпеюць, пападаюць пры абмалоце ў аруд, а потым і ў хлеб. І ня думаем мы, што ў такім хлебе мы маем атруту, ад якой бывалі выпадкі, што паміралі дзясяткі тысяч людзей. На шчасьце, ў нас дамешка гэтых ражкоў у хлебе бывае нязначная, каб ад яе павальна ўміралі людзі, але гэта часта трапляецца, калі хлеб з больш-менш значнай дамешкай гэтых ражкоў, дык ён выклікае незразумелыя для нашага селяніна болі ў жываце, ад якіх пачынаюцца сутаргі, ванітаваньне, корчаньне і г. д.

Пазнаёміўшыся са шкоднасьцю ражкоў, мімаволі насоўваецца думка, што іх трэба адлучаць ад збожжа. Вось калі мы гэта зробім, дык ня толькі абясшкодзім наш хлеб, ухілім магчымыя болі нашага арганізму, але яшчэ гэтыя ражкі могуць даць нам не адну залатоўку. За беларускія ражкі заграніцай плацяць добрыя грошы і ўжываюць іх для лякарства. Для гэтага трэба іх зьбіраць і перахоўваць адпаведным спосабам.

На лякарства патрэбны ражкі толькі жытнія. Найлепшымі лічацца такія ражкі, які сабраны за 2—3 тыдні да жніва. Ражкі сабраныя са снапоў, або выбраныя з выма-

лачанага жыта, менш каштоўныя на рынку, хаця іх таксама ўжываюць на лякарства. Ражкі, сабраныя на карані жыта, трэба падсушыць, але не на сонцы, ад праменьняў якога ражкі трацяць сваю вартасьць, як лякарства. Сырасьць таксама шкодзіць ражком і заплясьнелыя ражкі ня купляюць купцы.

Трымаць сабраныя ражкі трэба ў сухім мейсцы, запакаваўшы іх ў драўляныя скрыначкі, абложаныя з сярэдзіны паперай. Скрыначка павінна быць добра зачынена. Ражкі пажадана як найхутчэй прадаць. Перасылаюцца яны ў папяровых або палатняных торбачках. На торбачках трэба зрабіць надпіс: 1) год і месяц; 2) з якога жыта — азімага ці ярыцы зьбіраны (на карані, на снапох ці з вымалачанага жыта).

**Б. К.**

# Шалы.

(Паводле Шмулевіча).

На нашых землях часта зьяўляюцца выпадкі шалаў з жывёламі і нават з чалавекам.

Шалы перш-на-перш зьяўляюцца ў сабак, кошак, ваўкоў і лісіц і ад укусу іх шалы пераносяцца на іншыя жывёлы і чалавека.

Самастойнае зьяўляньне гэтае хваробы, як некаторыя думаюць, сумліўна. Шалы зьяўляюцца незалежна ад часу году, ад пагоды, корму і іншых вонкавых прычын. Сутнасьць прычыны шалаў яшчэ вэтэрынарыя недасканала высьветліла, хаця больш і больш у апошнія часы бачуць гэту прычыну ў пастаці маленькіх аргамізмаў, знаходзячыхся ў сьліне і ў нэрвовай сыстэме шалёных жывёл.

Пасьля ўкусу шалёнай жывёлай не адразу і ня ўсе жывёлы хварэюць. Сабакі і кошкі хварэюць ад укусу да 25%, іншыя каля 30%, людзі да 20%. Хаця, калі ўкус быў у галаву, або часткі, блізкія да галавы і сэрца, дык гэты процант павялічваецца да 90.

Ад моманту ўкушэньня да першых прыкметаў (інкубацыённы пэрыяд) праходзіць іншы раз даволі значны час. Пры ўкусах верхняе часткі цела інкубацыённы пэрыяд карацейшы.

**Шалы сабак** пачынаюцца зьменай іх тэмпэрамэту: сабакі робяцца сумнымі, вялымі, хаваюцца па кутках, часта ўцякаюць са свайго двара і шляюцца па ваколіцы.

У некаторых выпадках сабакі пры шалах злыя, палохлівыя, ловяць мух, калі іх нідзе ня відаць, кідаюцца на дзьверы і іншыя рэчы. Апэтыт зьмяншаецца, а смага павялічваецца. У гэты час сабакі праглынаюць трэскі, салому,

гной, зьяўляецца сьліна, дрыжакі і іншыя праявы. Апошні пэрыяд шалаў як пры ціхіх, так і пры буйных шалах, адзначаецца паралічам заду і падсанкаў (чэлюсьці). Сабака здыхае звычайна па 4—7 днях. Пры ускрываньні шалёнай сабакі характэрных прыкметаў не знаходзяць; толькі часта у жывату знаходзяць салому, гной, шкло, палкі і іншыя рэчы. Выразна пазнаць хваробу бывае трудна, дзеля чаго прышчэпліваюць мозг шалёнай сабакі кроліку, і калі кролік шалее, судзяць аб хваробе сабакі. Для прышчэпліваньня патрэбныя спэцыяльныя інструманты, спэцыяльныя веды тэхнікі і навык.

**Шалы ў ката** падобны да шалаў сабак. Таксама і прыкметы шалаў ваўкоў падобны да шалаў сабак. Кошкі часта пры шалах кідаюцца на твар сваёй ахвяры, глыбока і небясьпечна дзяруць. Больш усяго страшны ўкусы шалёных ваўкоў.

**Шалы коняў** пачынаюцца сумным і вялым характарам, або выразным безпакойствам. У апошнім выпадку коні раптоўна лажацца, ўскікваюць, фыркаюць, храпяць. Потым у хворых коняй зьмяншаецца апэтыт, зьяўляецца норыў кусаць іншых жывёл і чалавека. Жаданьне кусацца бывае так вялізнае, што яны кусаюць саміх сябе, вырываюць сабе скуру, машонку. Пасьля такік праяваў, коні ізноў становяцца вялымі, большаю часткаю ляжаць уздрыгваючы. Пасьля ізноў праявы буйнага характару, нарэшце параліч заду і сьмерць па 4–6 днях хваробы.

**Шалы рагатае скаціны** пачынаюцца беспакойствам жывёлы, зьмяншэньнем апэтыту, жвачкі, малочнасьці. Пры зьяўленьні сабакі на жывёлу нападае страх, гнеў, яны кідаюцца на сабаку з рагамі, зубамі і нагамі. Бываюць выпадкі, што шалёныя рагатыя жывёлы кідаюцца на іншых жывёл і на чалавека. Жывёла адным матам раве. Пасьля буйных праяваў шалу, жывёла робіцца вялай, дрыжыць, выпускае шмат сьліны, пакуль не настане паралічу заду, сонлівасьць і сьмерць па 4—7 днях хваробы.

**Сьвіньні** яшчэ да праяваў шалаў грызуць і кусаюць скуру на тых мясцох, дзе ўкус'ла сабака, што часта бывае і ў іншых жывёл. Пры буйным ходзе шалаў прыкметы падобны да іншых шалёных жывёл, пакуль па 2—3 днях не настае сьмерць. Пры спакойных праявах шалаў, сьвіньня закопваюцца ў падсьціл і там ціха ляжыць да самай сьмерці.

**Лекі.** Раз ужо шалы выявіліся ў жывёлы, дык лекі тут амаль безкарысны. Для змаганьня з шаламі важна папярэдзіць іх зьяўленьне. Для гэтага ўсе шалёныя жывёлы мусяць быць зараз-жа забіты і закапаны са скурай глыбока, каб ня выкапалі сабакі і ваўкі. Памешканьні і рэчы, заражоныя шалёнымі жывёламі, павінны быць дэзыфэнцыраваны варам (кіпятком) ці рашчынам сулемы (1:1000). Трэба зьніш-

чаць брадзячых, сабакі накладваць на іх намордні кі. Пасьля ўкусу шалёнай ці падазронай сабакай жывёлы, усунуць яд з раны, патрымліваючы сільны крыватоќ; кроў з раны выдаўляюць, раны вымываюць крэалінам, рашчынам сулемы, або прыпальваюць гарачым жалезам.

У апошнія часы з пасьпехам робяць так званыя Пастэрэўскія прышчэпліваньні. Паліцыя ў такіх выпадках мусіць даць самую пасьпешную дапамогу для перавозу падазроных на шалы да станцыі прышчэпліваньня.

## Гаспадарчыя парады.

**Пытаньне.** Сёлета ў жыце зьявілася шмат сарнякоў, краску якой прысылаем рэдакцыі. Ці гэта ёсьць віка азімая і ці варта зьбіраць яе на насеньне?

К. **Шаўлюга.**

**Адказ.** Назоў сарнякоў у Вашым жыце будзе па лацінску Vicia lathyróides (чынападобны гарашок), сарняк, якога можна спаткаць па нашых лугах, межах. Азімая віка, ці як яе яшчэ называюць касматай, пяшчанай, па лацінску (Vicia villosa) розніцца ад звычайнай пасеўной вікі большаю касматасьцю сьцебеля і лісткоў, ад чаго і атрымала назоў касматай. Фіялетавыя краскі сабраны ў густыя грудкі. Струкі шырокія і недаўгія маюць па 3-4 дробных зярняткаў. Расьце у дзікім стане па нашых палях і красуе ў чэрвеню і ліпеню месяцох. Расьлінка аднагадовая, але пасеяная ў восень разам з жытам, на другі год дае раньні пакос добраякаснага корму. Любіць глебы лёгкія.

Лепш насеньне касматай вікі набыць са складаў насеньня.

Ваш сарняк кульцівірнваць не знаходзім сэнсу.

**Пытаньне.** „Якое зельле на ўдзяржаньне кабылы ат „зьверганьня"?

2) Як абараніцца ад мурашак, якія лазюць у вульлей да пчол?

3) Як лячыль крывавую мачу ў кароў.

**С. Доўгач.**

**Адказ.** 1) Што такое „зьверганьне", рэдакцыя ня ведае. Пастарайцеся даць больш падрабязнае апісаньне прыкметаў хваробы, тады зможам даць параду.

2) Адна нямецкая сельска-гаспадарчая часопісь раіць проціў мурашак, нападаючых на пчол, пасыпаць вулей і гнёзды мурашак таўчоным чоснакам. Спрабуйце і напішэце нам, як гэты спосаб дзеіць.

3) Крававая мача ў кароў часьцей усяго бывае на тых каровах, якія пераведзены на новыя пастбішчы (як кажуць сяляне на наводных каровах). Прычынаю бывае: балоцістыя, кіслыя тарфяныя пастбішчы, а таксама і сена з такіх пастбішч. Выклікаць крываўку могуць пупышкі вольхі, сосны, дуба, а роўна і травы, як казялкі, малачайнікі, пралескі і др. Расьліны, пакрытыя іржой, грыбкамі, авадамі і іх калам, вада са стаячых балот могуць часта выклікаць крываўку.

Пошасная краваўка выклікаецца асобымі мікробамі і зараза распаўсюджваецца кляшчамі. Заразная крываўка звычайна зьяўляецца летам. Тут, як толькі зьявіцца хвароба, жывёлу трэба перавесьці на іншае пастбішча ці ізаляваць (аддзяліць ад іншых) у хляве.

Мяккі корм, добраякаснае пастбішча, сьветлае памешканьне, пойла, малако—добра памагаюць пры краваўцы.

Часта памагае дача ў сярэдзіну салянакіслай хініны 2 зал. і кухоннай солі 1 зал. Гэту сумязь даваць тры разы у дзень. Даюць таксама солянага квасу (ў аптэцы дастаць) 2 зал., камфорнага сьпірту 7 зал., атвару івавай кары $^1/_2$ бутэлькі на 1 раз. Паўтараюць у працягу дня 4 разы.

# Праўныя парады.

**Пытаньне.** Маю 50-ці гадоў бацьку, 45 гадоў матку і 15 гадоў сястру. Ці маю права на адтэрмінаваньне вайсковай службы? **А. Карэйка.**

**Адказ.** Мін. спраў унутраных выясьняе, што адтэрмінаваньне вайсковай чыннай службы можа быць зроблена: сыну няздольных да працы бацькоў, калі тыя ня маюць больш здольных да працы дзяцей. Калі дахторская камісія вашым бацьком вызначыць ня здольнасьць да працы % менш 35, дык вы падляжыце чыннай вайсковай службе; калі гэты % будзе ад 35 да 55, дык гэта залежыць ад пагляду ўлады, вызначаючай адтэрмінаваньне, калі-ж вашы бацькі дастануць процант няздольнасьці большы, чым 55, вам адтэрмінаваньне службы вайсковай дадуць.

Не падлягаюць доктарскаму баданьню бацька звыш 60 гадоў, самотная матка звыш 45 гадоў, сёстры да 18 гадоў і браты да 16 гадоў.

**Пытаньне.** Мне адмовілі ў адтэрмінаваньні вайсковай службы. Да каго маю зьвярнуцца з жалабай **П. Л.**

**Адказ.** Акульнік міністра ўнутраных спраў выясьняе, што ў выпадку адмовы адміністрацыйнай уладай на адтэрмінаваньне вайсковай службы, або наданьня палёгкаў, дык

рэкрут мае права ў працягу 14 дзён, лічучы ад дня атрыманьня адмоўнай дэцызіі, скласьці жалабу да ваяводы. Жалабу трэба перадаць цераз павятовага старасту, або цераз уладу, ад якой рэкрут атрымаў адмову. Права падачы жалабы губляе сваю сілу цераз 14 дзён, Падача жалабы не асвабаджае рэкрута ад яўкі да войска.

## Наша хроніка.

**Раптоўная зьніжка цэн на збожжа.** У прадбачаньні голаду на Беларускіх землях урад і прыватныя купцы закупілі з восені мінулага году значны запас збожжа.

Як вясной выясьнілася, што збожжа ў Польшчы было даволі, а заграніца польскага збожжа не патрэбавала, гэты загадзьдзя закуплены запас мусіў прадавацца на ўнутраным рынку па паніжанай цане, са стратай для купцоў. Урад скасаваў пошліну, каб прадаць збожжа дзяшавей на заграічным рынку.

У падобную сытуацыю ўрад і прыватных купцоў паставіў Польскі Галоўны Статыстычны Аддзел, які даў статыстычныя дадзеныя нязгодныя з праўдай.

**Льготная тарыфа на збожжа для галадаючых Віленшчыны.** У сувязі з пануючым голадам на Віленшчыне, улады ўхвалілі паніжаную жалезна-дарожную тарыфу на правоз артыкулаў першай патрэбы (жыта, ячмень, авёс, бульба, каша, алей, саланіна), якія напраўляюцца ў раён галадаючых. Ухвала мае сілу з 15 жніўня г. г., гэта значыць, калі Віленшчына нажне ўжо свайго хлеба.

**Бяленьне вонкавых сьцен хат.** Выйшла распараджэньне аб бяленьні вонкавых сьцен хат па вёсках і мястэчках. Бяленьне хат мае мэту — хіба вонкавы від Польшчы.

### Жыцьцё Усходняе Беларусі.

— Аддзел Прыроды і Гаспадаркі Беларускае Акадэміі Навук мае увесьці ў склад Акадэміі некалькі акадэмікаў з прычыны сур'ёзнасьці навуковай работы па вывучэньні прыроды і гаспадаркі Б. С. С. Р.

— Рада Беларускае Акадэміі Навук арганізуе Інстытут прамысловасьці, задача якога зьяўляецца ўсебаковае вывучэньне прамысловасьці Беларусі. Інстытут будзе існаваць пры Бел. Акадэміі Навук на аўтаномных пачатках.

— Інстытут мае складацца з 3-х аддзелаў: хэміка-тэхнічнага з цэлым шэрэгам лябораторый; 2) энэргэтычнага з лябораторыямі: цёпласілавай, гідра-дынамічнай; 3) аддзелу

будаўнічых матэрыялаў і органічнай прамысловасьці. Урад Б. С. С. Р. на інстытут адпускае 300.000 руб.

— Галоўнавука Б. С. С. Р. распрацавала плян навуковых экспэдыцыяў з мэтай вывучэньня прыроды і гаспадаркі далёкіх краін. Для гэтага урадам адпускаецца ў бягучым годзе 135.000 руб.

— Апрацаваны плян народнае гаспадаркі Б. С. С. Р. на пяць гадоў 1928—1933 паводле пяцігадовага пляну С. С. С. Р., з характэрыстыкай, якога нашы чытачы знаёмы з папярэдняга нумару „Сахі“.

## Беларускае жыцьцё заграніцай.

**Р. С. Ф. С. Р.** Дзяржаўнае выдавецтва друкуе і падрыхтоўвае да друку лепшыя творы беларускіх пісьменьнікаў у перакладзе на расейскую мову. Над гэтым працуе шмат беларускіх і расейскіх пісьменнікаў і вучоных.

**Усходняя Украіна.** У апошнія часы Украіна зацікавілася беларускаю культураю. Украінская Акадэмія Навук у Кіеве наладзіла вечар беларускае культуры.

З устыпным словам пра беларуска-украінскія адносіны выступіў вядомы ўкраінскі гісторык праф. Гермайзэ. У цікавай прамове ён гаварыў пра вялікае значэньне культурнай сувязі паміж Украінай ды Беларусьсю. Грам. Гэрмайзэ ўспомніў старыя часы, калі яму ў яго рэвалюцыйнай рабоце шмат давялося сустракацца з беларускімі дзеячамі.

Пасьля прамовы прафэсара выступіў квартэт Беларускага Украінскага Дзяржаўнага Тэатру. Беларуская песьня ў Кіеве зрабіла вялізарнае ўражаньне, публіка прасіла некаторыя песьні паўтарыць па некалькі раз.

**Латвія.** Усьлед за Рыгай і Дзьвінск рыхтуецца да „Сьвята Дня Беларускае Культуры“. Гэтае сьвята мае на мэце азнаёміць латвійскае грамадзянства з культурнымі дасягненямі Беларускага Народу. На сьвяце, на якім грамадзянства будзе аглядаць культурныя экспонаты нашага народу, будзе фігурнваць пераважна Усходняя Беларусь. Заходняя Беларусь сабрацца па незалежным ад нас прычынам на сьвята ня здоляе.

На выстаўцы будзе наладжаны „куток беларускае прэсы“ з пэрыядычнымі выданьнямі ўсіх беларускіх зямель.

**Амэрыка.** На чарговай выстаўцы ў травені 1929 г. міжнароднага Т-ва Кніжнага знаку ў Лос-Анджэлосе (Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі) прыймюць ўчасьце і беларускія мастакі з Усходняе Беларусі.

Рэдактар і Выдавец **А. Уласаў.**

## Цэны ў Вільні 25.VI.1929 г.

| | |
|---|---|
| Жыта 100 кілёграмаў . . . . . . . . . . | 34.00—32.00 |
| Ячмень „ „ . . . . . . . . . . | 33.00—32.00 |
| Авёс „ „ . . . . . . . . . . | 34.00—33.00 |
| Бульба „ „ . . . . . . . . . . | 25.00—19.00 |
| Вотрубі пшоныя „ . . . . . . . . . . | 30.00—25.00 |
| „ жытнія „ . . . . . . . . . . | 25.00—20.00 |
| Салома „ „ . . . . . . . . . . | 13.00— 9.00 |
| Сена „ „ . . . , , . . . . . | 15.00—10.00 |
| Масла салёнае 1 кгр. . . . . . . . . . . | 4.50— 3.50 |
| „ несалёнае „ . . . . . . . . . . | 5.00— 4.00 |
| Сыр вясковы „ . . . . . . . . . . | 1.50— 1.20 |
| Цыбуля „ . . . . . . . . . . | 0.50— 0.45 |
| Малако 1 літр „ . . . . . . . . . . | 0.35— 0.25 |
| Сьмятана „ „ . . . . . . . . . . | 2.0— 1.40 |
| Цукер пясок 1 кгр. . . . . . . . . . . | 1.60— 1.58 |
| „ у кусках „ . . . . . . . . . . | 1.90— 1.85 |